

# Партрэты ў інтэр’еры Гародні

пародыі, эпіграмы

Гродна 2013

УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)-5
Т65

**Т 65 Трацяк Янка.**
Партрэты ў інтэр'еры Гародні: пародыі, эпіграмы / Янка Трацяк. – Гродна, 2013. – 108 с.
ISBN 978-985-90237-4-3

**УДК 821.161.3**
**ББК 84(4Беи)-5**



**ISBN 978-985-90237-4-3**

О, гэты сьвет такі стракаты –
Ня дзеліць Бог пароўну нас…
Хто робіць больш – той вінаваты,
Таму трымаць за ўсё адказ!
…Ня ў крыўду тут, а як на сьвята –
Партрэт у профіль і анфас…

(ад аўтара)




Ад пародыі да пародыі,
парадзісту паэты, як родныя.
А паэты яшчэ й пародзістыя,
Як знаходка, як дар парадзістаму.



# Ілюзія дзяцінства

*Стаміўся Бог ад белых думак зла,*
*Ляціць душа да* ***чорнага*** *сьвятла.*
*“Экзотыкай будзе”.*

*І прыйдзецца плыць ім у цесных і* ***чорных***
*Каўчэгах па рэчцы зь вянкоў.*
*“Надзённасьць атушыць”.*

*І дзень і ноч на дом спадае*
*Зь нябёсаў* ***чорная*** *лістота.*
*Бясконцая восень.*

***Чорную*** *лямпу павешу –*
*Хай сабе сьвеціць.*
*У* ***чорным*** *паветры.*

**Анатоль Брусэвіч.** Ілюзія веры.

На беразе чорным,
Дзе чорная рэчка,
Дзе гуму палілі,
Чарнее пажарам...
Там чорныя плямы
І чорныя сьвечкі
У чорным гарэньні…
Гары яно гарам.
І чорны аловак
На чорнай паперы

Выводзіць абрысы
Дум чорных і словаў.
І чорныя лікі,
І чорныя дзьверы,
І чорная існасьць
Зчарнелых асноваў.

На чорнай падлозе
Такі ж чорны столік…
Чарнеюць трывожна
Дзьве чорныя швабры…
І грозны лік мамы:
Што робіш ты, Толік?
Разьліў ты навошта
Шмат чорнае фарбы!?







## Беларусы і долары

*Я долар зялёны ўчора купіў,*
*І гэтым, сябры, ганаруся,*
*А сёння той долар узяў ды згубіў –*
*Такі ужо лёс беларуса.*

**Віктар Варанец.** Лёс беларуса.

У слове прароцтву ня знойдзеш канца, –
Такое здараецца зранку, –
Як нехта А.Л. пачытаў Варанца,
Дык долары зніклі у банку.

Бывае вось так, што зялёных няма,
І раптам – валяецца долар,
Дык ты, беларус, яго не падымай,
Бо можаш згубіць нашмат болей.

Хто долар зялёны учора згубіў,
Хай лепш яго знойдзе прыблуда…
Калі ж беларус нейкі долар набыў,
Мяняць яго трэба на “рубаль”!

А знойдзе хто долар – згубіць можа два,
Тут, ведай, такія манеўры!
Ты долар знайшоў – дык у банк аддавай,
Здавай туды долары й еўры!

……………………………………………
Я долар зялёны учора купіў
І гэтым, сябры, ганаруся,
А сёння той долар узяў ды прапіў –
Такі ужо лёс беларуса.








## Зямля мая

*Праз мноства лет, праз мноства зім*
*Ішоў я на Радзіму.*
*Шынель павесіў і мундзір*
*У шафу ўсім на дзіва.*
*…………………………*
*Ды ў гэтым быў, напэўна, лёс,*
*Адчуць да вершаў прагу.*
*…………………………*
*Пра ўсё былое не маўчу,*
*Хоць час мяне калыша.*
*Табе, зямля, сказаць хачу:*
*Твой сын жыве, шчэ й піша!*

**Браніслаў Ермашкевіч**. Табе, зямля

Калі б на мне вісеў мундзір
(Было ж такое дзіва),
Зямля адна была б наўздзіў,
І сіратой – Радзіма.

Зямля мая, праз мноства зім
Не знала б ты паэта!
Калі б на мне вісеў мундзір,
Зімой вісеў і летам.

Цяпер я смелы, не маўчу
У доме без мундзіра.
Цяпер пішу, як захачу…
Пішу ўсім на дзіва.

Ступіўшы гэтак па траве,
Да слоў адчуў я прагу.
Зямля мая, твой сын жыве,
Жыве “нераўнавага…”!








## Радзімы маёй брук

*Зямлі маіх бацькоў*
*Падстаўлю я плячо.*
*Здыму замок з акоў*
*Агораным ключом.*

*Зямлі бацькоўскай верш*
*Я раніцай пішу.*
*……………………………..*
*Яго я ў дом нясу*
*І летам і зімой,*
*……………………………...*
*А з ім нясу імя,*
*Што маці мне дала,*
*Каб не згубіўся я,*
*Калі ішоў здаля.*

**Браніслаў Ермашкевіч**. Зблізку

Зямлі маіх бацькоў
Падстаўлю я плячо.
Зраблю падборку слоў –
Паэзіі кручок.

Бацькоў маіх зямля,
Ляцяць замкі з акоў…
Рыфмую добра я,
Раз-два – і верш гатоў.

Як бульбу з’ем найперш
Ці хлеба кусану:
Зямлі бацькоўскай верш
У хату прынясу.

Нясу я верш  у друк,
Агораны ў душу.
Зямлі радзімы брук
Я болей напішу.

Нішто не прападзе,
Прынёс не верш – імя.
Мо заблудзіўся дзе,
Калі ішоў здаля.








## Музыка

Каб Беларусь свой гонар мела,
А ў целе быў здаровы дух…
Старайся, брат, каб скрыпка пела
І звонкі голас не патух.
……………………………………
Наладзіць наш айчынны смык,
……………………………………
І дудка каб спявала песні…
……………………………………
Каб Беларусь сваймі вачыма
Заўжды гукала за сабой
Купала, Колас і Айчына –
І з імі ты, а я з табой.

**Браніслаў Ермашкевіч.** Вытокі

На скрыпцы, дудцы і цымбалах
Спявалі, гралі, як маглі,
Ды толькі шмат не даігралі
Маёй Айчыне і зямлі.

Я сам спяю і даіграю,
Я маю вопыт, дам урок,
Што трэба, першае, для краю –
Наладзіць наш айчынны клёк.

Бо ж не сваёй карысці дзеля
Я зняў мундзір і свой шынель,
Айчыннай славы дзеля вельмі
Пайсці рашыў я на панэль.

Каб Беларусь была з павагай,
Ёсць Ермашкевіч, шчэ ўдвух:
“Зямлі маёй нераўнавага”,
А ў целе ёсць здаровы дух.

Для Беларусі гонар, веліч –
Нішто без постаці маёй,
Купала, Колас, Ермашкевіч,
І то два першыя – за мной.

Зноў скрыпка, дудка, смык, цымбалы –
Гучаць на розныя лады.
Зайграў, зайграў, як хлопча малы,
І як душою маладых.








**Як льга?**

*Як льга сваім вачам не верыць?*
*Да восені рукой падаць.*
*Нагамі жнівень не прамерыць,*
*Рукамі неба не дастаць.*

*Што лёсам мне наканавана,*
*Не адалеў за мноства лет,*
*А з усяго, што Богам дана,*
*Праклаў у свет свой першы след.*

*Як закурлыча восень клінам,*
*А потым і зіма гукне,*
*Мая апошняя хвіліна*
*У макаўку жыцця зірне.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Жнівеньскі

Каб зразумець першапрычыны,
Да неба цягнецца рука,
А тут курлыча восень клінам,
Зіма свіннёю да гука.

Не кожнаму дано паэту
У макаўку жыцця кляваць.
Я ж разгадаў загадкі свету:
Рукамі неба не дастаць,

Нагамі жнівень не прамерыць,
А пальцам свет не скалупнуць,
Калі ўцякаць, дык лепш у дзверы,
Калі пісаць, дык рыфмануць.

Усё, што мною напісана,
Ты ж не прачцёш за мноства лет.
Відаць, ад Бога мне ўсё дана,
Відаць, ад Бога я паэт!

Як льга маім славам не верыць,
Як льга умом не панімаць,
Аршынам обшчым не ізмерыць,
Свая ў мяне цяпер ёсць стаць.








## Гасподняя чарка

*І ўсё ж такі і мне Гасподзь*
*Не да краёў напоўніў чарку.*
*Казаў: душу не верагодзь,*
*Круці гадоў сваю ручайку.*
*............................................*
*Дагнаць, хто спераду бяжыць,*
*Не пакідаю я надзеі.*
*....................................*
*Ад пражытага няхай*
*Душу палечыць, бо падрана.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Прага

Я часта з Богам тэт на тэт
Па чарцы з ім раблю, як з сватам.
Ён – Усявышні, я – Паэт,
У нас агульнага шмат надта.

Раз, кажа ён, так трэба жыць,
І шмат зрабіць – падзеяў поўна,
Таго, хто спераду бяжыць
Ты дагані і дай, каб помніў!

Казаў Гасподзь: не вершаводзь,
Давай лепш зробім па стограмаў…
Не да краёў наліў Гасподзь!
І вось душа мая падрана.

Прасіў Гасподзь: “Калі ў цішы
Ты да краёў напоўніш чарку,
Ты ж толькі вершаў не пішы.
Круці сваёй лепш галавайкай!

І да мяне больш не прыходзь,
І выкінь вон сваю ручайку!..”
Не слухаў я – казаў Гасподзь…
Такая выйшла вершаванка.







## Шырлі-мырлі

*Па дарозе, што пабачыў у дзіўным сненні*
*І з якой не мог дагэтуль развітацца,*
*Вандраваў гадамі з мукамі сумлення*
*І з той мудрасцю, з якой сумеў спаткацца.*

*Я вяртаюся да матчынае хаты,*
*Да яе каберцаў, поўных дзіўных чараў.*
……………………………………….
*Кульбу я спалю, прыдбаную ў дарозе,*
……………………………………….
*І сагрэецца душа ў дзівоснай крозе,*
……………………………………….
*А затым дастану бохан з белай кайстры,*
……………………………………….
*І ўжо бачу ў родным краі почырк майстра*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Вяртанне

У начненні бычу часта ў дзіўным сненні,
Я з той мондрасцю бываю прэдка дома,
Як вяртаюся дахаты ўжо на дненні.
З пустой кайстрай, кульбай, клюгай ад знаёмай.

Цяжка з мукамі сумлення ў паняверцы,
З клёкам развітаўся ў дзіўнай нейкай друзе,
У свой дом прыйшоў, а там вісяць каберцы,
Нехта пёрлы прысвячаюць блюзе музе.

Часта з гульбай мне здавалася ў дарозе,
Вось пішу славесы колькі маю ладу,
А каберцы… што за муза ў дзіўнай крозе,
Ну, каберцы… слоў няма да перакладу.

Кожны раз хаджу туды-сюды з альбомам,
Кундра шэпча майстра твор мой – вершы пёрлы,
Калі што, у мяне не ўсе бываюць дома,
А калі бываюць, бачаць шырлі, мырлі, гёйлы.








## Паэзія ражна

*Як проста знайсці прыгоды*
*У доме ці за мяжой,*
*Ды лепш, дасягнуўшы згоды,*
*Не перціся на ражон.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Прыгоды

Навошта плаціць за візу,
Турбот шмат адных з мяжой,
Знайсці можна дома, зблізу,
Прыгоды і той ражон.

Зямля тут ражном як зрыта.
Зямлі верш тарчыць ражном,
Ражон тут ражном пакрыты,
Ражон так і прэ ражон!

А людзі – вось дзе парода, –
У кожнага свой ражон.
Лепш проста дайсці да згоды,
Якога ж ражна жывём?

Калі хто не будзе рады,
Я лягу за верш крыжом.
А крытыкам дам параду:
Не перціся на ражон.




*Калі касцюм сабе набыў –*
*Як быццам бы русалку звудзіў.*
*Рака пяшчот лягла на грудзі,*
*Калі касцюм сабе набыў…*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Выбар

I.

Цудоўны выбар я зрабіў:
Купіў вуду – і на рыбалку,
Калі б касцюм яшчэ набыў –
У ім бы я злавіў русалку.

Бо без русалкі што й казаць…
Я пра русалку марыў змалку.
Яшчэ хачу трусы дастаць –
На галяка не ідзе русалка.

Пасля яшчэ й штаны куплю,
Мне толькі бы русалку звудзіць,
А Муза? – Музу не люблю –
Не лезе Муза мне на грудзі.



II.

Калі трусы сабе набыў,
Адразу стаў паэтам лепшым,
Ракой пяшчот сябе я цешыў,
Калі трусы сабе набыў.
Надзену іх і пішу вершы,
Цудоўны выбар я зрабіў,
Калі трусы сабе набыў,
Адразу стаў паэтам лепшым.





## Навар ад рэалій

*Калі вецер гуляе ў кішэні,*
*А на лепшасць надзеі няма,*
*Тады дробязь, што песціцца ў жмені,*
*Знай – штурхае душу на падман.*

*Калі неба здаецца з аўчынку….*
*…………………………………..*
*Каб набыць ад рэалій навару,*
*Каб заўчасна душы не змарнець,*
*Над кішэнямі пагаспадару,*
*Перад тым як апратку надзець.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Рэаліі

Калі грошаў няхватка ў кішэні,
А ад ветру скразіць галава,
Так і хочацца зботаць па фені,
Напісаць адзін верш, альбо два.

Толькі з вершаў не будзе навару, –
Так не цяжка душою змарнець,
Не пражыць з аднаго ганарару,
Трэба дзе каго-небудзь раздзець.



Над кішэнямі пагаспадарыць,
Перад тым, як апратку ўзяць,
А пасля каго трэба ўдарыць,
А пасля можна верш напісаць.

Каб навар ад  рэалій быў зрэдку,
Ведай, што у кішэнь палажыць…
Толькі неба здаецца у клетку, –
Ды хто ж будзе за вершы судзіць?..





## Цела

*Я жадаю няўмольнаму целу*
*Неба чыстага над галавой,*
*Каб маглося яму і карцела*
*Расцвісці збажыной палявой.*
*……………………………..*
*Млечным шляхам да цуда-царэўны,*
*Куды-сцежкі дарожкі вялі.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Мара.

Маё цела памытае ў моры,
І палітае звонкай красой,
І цвіце, і лунае ў прасторы,
І стаіць збажыной палявой.

Каб лілося, пілося, вялося,
Толькі што не прыдумае люд.
Каб хацелася мне, каб маглося,
Ёсць на целе маім адзін цуд.

З гэтым цудам бягу напярэймы
(Як, бывала, калісьці было).
Маё цела да цуда-царэўны
Мяне блуднаю сцежкай вяло.



А царэўна смяялася, зрэшты,
Не уразіў царэўну мой цуд.
А калі стаў чытаць свае вершы,
Загадала павесіць за блуд.






*Дакладна, сам сябе сягоння папракаю:*
*Не гэтак жыў, не ў тыя грукаў дзверы…*

**Браніслаў Ермашкевіч**. Шараговае

Табе адчыняць дзверы, толькі добра стукай,
Казалі людзі мне не раз аднойчы –
Усякі раз, калі я ў дзверы моцна грукаў,
Не адчынялі мне пасярод ночы.

І да сябе не маю сёння пэўнай веры –
Растраціў шмат я вершаў і паэмаў –
Усё жыццё не так, не ў тыя грукаў дзверы –
Усё жыццё хадзіў я толькі ў “эМы”.

І зрынуўшы ў нябыт душы сваю гаротнасць,
Я прасвятлеў, мяне Бог беражэ.
І колькі можна быць, насіць з сабою цнотнасць –
Пайду я смела ў дзверы, што на “Жэ”.






*Гонар мець – не загана,*
*Калі медзь – для людзей.*
*Як гудзе дзеля пана –*
*Служыць бляскам слюдзе.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Загана

Пісаць верш – не загана,
Трэба рыфмай круціць,
Дзе – загана, там – пана,
Дзе – круціць, там – дурыць.

Калі тое – такое,
У слюдзе – для людзей,
Тое – як залатое,
У нудзе – і гудзе.

А калі што якое,
Няма дзе, аніяк,
У слюдзе – ды не тое,
Альбо глюк, альбо гляк.

Там, дзе – лава, там – Клава,
Там, дзе медзь, можна – мець,
Браніслава – для славы,
Трэба мець і ўмець.

Каб да рыфмы ды – сэнсу,
На сэнс рыфмы няма,
Прыстасуем нонсэнсу,
А няма – да цямна.

Цыгарэту – у газету,
Верталёт – самалёт.
Так стаць можна паэтам,
Лёд – пралёт – верталёт…








## Мудрагелісты верш

*Часам мерыцца спрынт,*
*Крокам мерыцца воля,*
*Адалець лабірынт*
*Дапаможа патоля.*

*Душу поўніць жарсцвяк –*
*Цісну вусны ад болю,*
*Як імкну напрасцяк*
*Я па жвірнаму полю.*

*Мудрагелісты быт,*
*Падалося – цвярозы:*
*Мару цягне ў нябыт –*
*Горка плача бяроза.*

*Падпірае блакіт*
*Тугаплаўкая хмара.*
*Адплывае, бы кіт,*
*З поля жвірнага мара.*
*………………………..*
*След, дзе жвірыцца плёс,*
*Хваля волкая сцёрла…*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Жвір

Літрам мерыцца спірт,
Шпрыцам мерыцца доза,
Мудрагелісты быт
Падалося – цвярозы.

Мару цягне ў нябыт,
Душа поўніцца даўка,
Пішу верш-лабірынт,
Дымам сцелецца траўка.

Як імкну напрасцяк,
Горка плача таполя,
Мне насустрач жарсцвяк,
І мярцвяк, і патоля.

Мудрагелісты быт –
Хваля волкая наша,
Часам мерыцца спрыт,
Ды бярозавай кашай.

Адалею прасцяг
Я па міннаму полю
Да бярозы – жарсцвяк,
Жвір у вочы – да болю.

Я, як мудры паэт,
Знайду мудрыя словы,
Толькі розгамі ўслед,
Памахаў куст лазовы.

Як імкну напрасцяк,
Да ног лепіцца гліна,
Зноў насустрач мярцвяк –
Горка плача асіна.



Там, дзе плавае кіт,
Тугаплаўкай акулай,
Там падпёр я блакіт,
Жвірнай макулатурай.

Мудрагелісты верш
Не напішаш цвярозы.
Дуб галосіць нязрэшт –
Заламаў я бярозу.





## Агарод

*Смага сушыць душу,*
*Плынь штурхае паром.*
*Пакуль здольны, пішу*
*Я пяснярскім пяром.*
*……………………….*
*Як адолее круг,*
*Ці яшчэ раз, другі,*
*Душы выспее дух*
*Ля вясёлкі дугі.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Плынь

Калі вершы пісаць,
Ды гусіным пяром,
Дык няма што чытаць,
Абы што, што ні том.

“І лягла цішыня
У бары за ракой…” –
Форма, рыфма мая,
Слабы верш, бо не мой.

Я ж кругамі пайду,
Ля вясёлкі дугі.
Там я рыфму знайду
Да “кругі”, “берагі”.



Там душу напаю,
Пажар тушаць вядром,
Ды чарнілку вазьму
Не з гусіным пяром.

Зноў адолеў я круг
Ля вясёлкі дугі.
Душы выспее дух –
За штрафныя кругі.

І прыйшла мне мысля –
Няма ў нас песняроў,
Быць не можа пясняр,
Ды з гусіным пяром.

За віхурай услед
Душы выспее гром.
Ермашкевіч паэт,
Бо з пяснярскім пяром.

Душы выспее плод,
Дам з парома нырца,
Можна з слоў агарод
Гарадзіць без канца.






*Калі прастору носам рыў*
*Агеньчык ад сярнічкі,*
*……………………….*
*І запаліў касцёр любві…*
*………………………..*
*Запомніў я на ўсё жыццё*
*Таго цяпельца венчык.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Агеньчык

Бывае слоў такі парыў
(шмат трэба для любові)…
У слоўніках я носам рыў –
Хацеў не блудасловіць.

Бывае што славес хапун
Зарохкае у сшытку,
Складаеш шэраг рыла дум
У вершы тут нібыта.

Верш брыкне знічкаю на дол
Такі, відаць, каненчык.
Свяча гарэла, там дзе стол,
Ды не свяча – сярненчык.






*Добры дзень, – кажу, –*
*Дзядзька наш Колас,*
*Прывітанне ж кладу на паперу.*
*Я хачу, каб пачуў ты мой голас,*
*Ды й у моц беларуса паверыў.*

*Як і ты, я бядняцкага роду*
*(З плеч сваіх не здымаю сярмяжку),*
*Век свой жыў і служыў ты народу,*
*Не здымаючы з пояса дзяжку.*

**Браніслаў Ермашкевіч.** Дзядзька Колас

Быць паэтам – падаць трэба голас,
Да вялікіх хадзіць трэба ў госці…
“Добры дзень, – кажу, –
Дзядзька наш, Колас,
Я паэт – напісаў пра вас штосьці.

Як і ты, я бядняцкага роду,
Як і ты, сёння класік я модны,
Як і ты, буду хутка народным,
І мне помнік стаяць будзе ў Гродне”.

Дзядзька Колас не дасць табе маху,
Дзядзька ведае, хто паэт лепшы.
Свой мундзір Бронька кінуў у шафу,
Стаў чытаць дзядзьку Коласу вершы.

"З плеч сваіх не здымаю сярмяжку…"
(Тут для рыфмы салгаў трохі, братцы),
Дзядзька Колас заплакаў, зняў дзяжку,
Лупцануў Браніслава па ср…







## Непрачытаны раман

*Ты чытаў мяне, нібы раман,*
*а я для цябе малітоўнік,*
……………………………………
*Што жыццё – гульня і падман,*
*хлусня найвышэйшай пробы…*

**Людміла Кебіч.** ***Ты чытаў мяне, нібы раман

Хто чытаў мяне, нібы раман,
той густ мае востры і тонкі, –
дзе пра чары мае, мой дурман
чытаў – абслюнявіў старонкі.

Што жыццё – гульня і падман,
як крызіс нятворчай адлігі.
Ты чытаў мяне, нібы раман,
у кнігу глядзеў – бачыў фігу.

А навокал – хлусня і міраж,
нікому не будзе збаўлення,
хто чытаў мяне, як "Ойча наш",
калі я была без адзення.



## Паэткі

*Бываюць жанчыны – жанчыны,*
*бываюць жанчыны паэткі.*
*Жанчынам-паэткам мужчыны*
*трапляюцца годныя рэдка.*
*……………………………………*
*Паэтка ж імкнецца да волі,*
*вядзе дыялогі з багамі…*
*……………………………………*
*ідуць па жыцці без аглядкі*
*і плачуць слязамі Айчыны.*

**Людміла Кебіч.** Паэткам.

У доме мужчыны жанчына
Вядзе дыялогі з Багамі.
Прыходзіць да хаты мужчына,
Прыходзіць чамусьці з рагамі.

Накладка тут… выпадак гэткі,
Мужчына шукае прычыну:
Жанчына яна ці паэтка?
Паэтка яна ці жанчына?

Паэткі з’яўляюцца рэдка,
Паэткай дык лепш не радзіцца –
Як толькі убачаць паэтку,
Мужчынам карціць, каб напіцца.



Калі ты жанчына – жанчынай
Застанься ці так, альбо гэтак,
І мецць тады будзеш мужчыну –
Не любяць мужчыны паэтак.

Не трапіць сапраўдны палкоўнік,
Каб чэрпаць натхненне прылюдна…
Альбо алкаголік паклоннік,
Ці нейкі прыб’ецца прыблуда.

Няма такіх годных мужчынаў,
Што раз – усё горшы, не лепшы,
Хто выцер бы слёзы Айчыны,
Насіў на руках бы за вершы.

І хто разгадае загадку,
Чаму так бывае нярэдка:
Бягуць па жыцці без аглядкі
Мужчыны ад жонак-паэткаў?!





## Скажы, чаму?

*Мой Божа, скажы, калі*
*Ты выпусціў мяне з рук,*
*Няўжо цябе так гнялі*
*Грахі мае – даўкі гук?*

*Насіў Ты мяне, бярог,*
*Саломку пад ногі слаў,*
*На мокры ад слёз мурог*
*Сягодня мяне паклаў.*

*У небе – гаці гаць…*
*Між зорак лунае страх.*

**Людміла Кебіч.** Скажы калі

Між зорак лунае страх,
У небе – такая муць,
Насіў мяне Бог на руках,
Дык трэба ж было рыфмануць.

Падобны на даўкі верш,
Я выдала даўкі гук…
Спалохаўся Божа найперш
І выпусціў мяне з рук.

Мой Божа, скажы, сажы,
Як мне без цябе устаць?
Куды ты мяне палажыў?
Тут мулка вершы пісаць.





## Яечня і сам

*Перабрала ўсе памылкі,*
*Што зрабіла за жыццё,*
*Накалола іх на вілкі –*
*Не зважала на ныццё –*

*І закінула на неба –*
*Разбіраецца хай сам,*
*Той, хто ведаў, што мне трэба,*
*Але ў час не падказаў.*

**Людміла Кебіч.** Памылкі

Я ўзяла свае памылкі,
Што раблю ва ўсякі раз,
Накалола іх на вілкі –
Не сказаў сам, што маразм.

Колькі ж вілак было трэба –
Абышла дзесяткі крам.
Кіданула ўсё на неба,
Разбіраецца хай сам.

А пасля ўзяла я ложкі,
Міскі, чашкі і нажы,
І гуляла ў “мышкі-кошкі”,
З тым, хто быў сам на крыжы.

Скварада была, патэльня,
На відэльцы – ганарар –
Я ж пісала верш брутэльны –
Кіданула ўсё да хмар.

Я ж такая-растакая,
Магу вершык напісаць.
Мае вершы сам чытае,
Бо няма каго чытаць.

Сам мне выправіць памылкі, –
(Не заўважыў, як чытаў),
Ён яечню сёрбаў вілкай,
І нічога не сказаў.








**Пад Каложай**
казка
пра залатое пяро
і дзяўчынку

*За плотам сталёвым*
*схавана хацінка,*
*з вачамі анёла*
*жыве там дзяўчынка.*
……………………………………..…
*Вясёлкаю краскай*
*зіхціць над сусветам.*
………………………………………
*Купае пялёсткі*
*у Немане хуткім,*
*і воблакам лёгкім,*
*і белай галубкай.*
……………………………………..
*Імкнецца ў нябёсы*
………………………..
*Бо ў садзе ёй цесна…*
…………………………………...
*Там – зоркі, там – слава…*

*Пры самай Каложы*
*жыць нельга без крылаў,*
*і Бог дапаможа –*
*дасць волю і сілу.*

*Уручыць паэту*
*пяро залатое,*
*хоць нешта пры гэтым*
*адыме другое.*

**Людміла Кебіч.** Пры Каложы

Пад самай Каложай
махаў поп кадзілам,
і днём нейкім гожым
радзілася дзіва.

З вачамі анёла,
як зорка паўстала,
ля самага Нёмна
над светам заззяла.

Такая дзяўчынка
расла вельмі хутка,
то стане былінкай,
то стане галубкай.

Зіхціць над сусветам
вясёлкаю-краскай
на зайздрасць паэтам,
і гэта як казка.

Было ў той дзяўчынкі
нічога нібыта:
старая хацінка,
старое карыта.

Такое малое –
даў Божа ёй сілу –
і дровы калола,
арала, касіла.

Ды неяк аднойчы
махаў поп кадзілам,
а ў Нёмане Ойча
лавіў кракадзіла.



Дзяўчынка да Бога
падскочыла прытка,
прасіла нямнога –
малое карытка.

Даў Бог ёй карыта,
абы была вера,
даў Ён ёй і сшытак
з чыстай паперай.

Назаўтра (як можна?)
Зноў Бога маліла,
што жыць пад Каложай
ёй цяжка без крылаў.

Тут шмат трэба сілы,
хадзіць – адны груды…
Даў Бог ёй і крылы,
а сам зматаў вуды.

У сшытак пісала,
што трэба да крылаў,
лістоў не хапала,
спісала чарніла.

Пісаць не было чым, –
пісала не тое –
прасіць стала ў Ойча
пяро залатое.

Каб даў заадно ёй
і славу і волю,
каб ёй тут, у Гродне,
пісаць яшчэ болей.

Каб Бог даў ёй месца –
ёй неба патрэбна,
бо ёй стала цесна;
каб ключ даў ад неба.

Адчула ўжо сілу,
дарослаю стала,
ужо не прасіла,
а патрабавала:

– Дай неба! Дай прынца,
Тварэц закарузлы…
Хачу быць царыцай,
багіняю Музы!

Пад самай Каложай
зноў дзіўнае дзіва…
Спалохаўся Божа,
махаў поп кадзілам.

І стала, нібыта,
зноў тая хацінка,
старое карыта,
маленькай – дзяўчынка.

Яшчэ залатое,
пяро паржавела,
калі што такое,
якое мне дзела.

Калі Бог карае, –
якія тут жарты!
Што ён адымае
было б ведаць варта.





## Застануся з сабой

*Божа мой, на нешта іншае*
*Ты мяне, відаць, стварыў*
*Дабрата і розум – лішняе*
*З усяго, чым адарыў.*
……………………………….
*Я такая хваравітая –*
*Западаю на душу*
*Да паэзіі прывітая –*
*Паміраю, а пішу.*

**Людміла Кебіч.** Застануся з табой

Божа мой, якой ды добраю
Ты мяне стварыў хутчэй
Азіяткай быць мне, кобраю,
Шмат куды было б лягчэй.

І прыгожая, прывабная –
Дзякуй, Божа, твой пасеў,
Лепш была бы я нязграбная,
І дурная, як усе.

Я ж такая працавітая –
Западаю на душу.
І паэтка я вялікая –
Паміраю, а пішу.

А яшчэ вялікім розумам
Мяне Божа адарыў.
Лепш пісала бы я прозаю –
Шмат лягчэй было б тады.

Як у вершы ёсць што лішняе, –
Богам можна апраўдаць.
Напішу пра нешта іншае,
Дык няма каму чытаць.








## У грамадскім туалеце

*Куды ні пойдзеш – людзі, людзі, людзі.*
*Куды ні глянеш – рукі, ногі, спіны,*
*Ды рэдка хто на вас свой позірк кіне,*
*А калі кіне, доўга не забудзеш.*

*Узнімеш вочы – можа там дзе існасць?*
*Апусціш долу – стос расчараванняў,*
*І ўсё часцей зямная рэчаіснасць*
*Заглушвае душы патрабаванні.*

*Мне б вершыкі складаць, пісаць карціны,*
*……………………………………………….*
*А я стаю гадзіну ля вітрыны –*
*…………………………………….*
*Каб шуганула полымя кахання,*
*Якому свет не знойдзе аналогій,*
*У згодзе жыць з Прыродаю і з Богам –*
*Вось наш адзіны шлях выратавання.*

**Кебіч, Л.А.** Шлях выратавання

Калі ні зойдзеш – людзі, людзі, людзі.
Куды ні глянеш – рукі, ногі, спіны,
Ды рэдка хто на вас свой позірк кіне,
А калі кіне, доўга не забудзеш.

І так сядзяць, падгнуўшы спрытна ногі,
У згодзе тут усе, святыя й шэльмы,
А больш нідзе не знойдзеш аналогій –
У згодзе жыць з прыродай – цяжка вельмі.

Узнімеш вочы – можа, там дзе знакі?
Апусціш долу – стос расчараванняў,
Куды ні глянеш – рукі, ногі, бакі…
Заглушваюць душы патрабаванні.

Не тое нешта з'ела я з вітрыны,
І вось сяджу я ў радзе, дзе святыя…
Складаць тут добра вершыкі любыя,
А грэбень мары – тут пісаць карціны.








## Гарохам па музе

*Мы ўсё часцей меняем "ах" на "ох",*
*Жыццё, маўляў, ў гэтым вінавата,*
*Мы рассыпаем словы, як гарох,*
*Забыўшы, што за кожным з іх расплата.*

*А на зямлі зялёная вясна*
*Змянілася даўно гарачым летам,*
*А ў нас з-за нейкай дробязі – вайна,*
*І мы не заўважаем з'явы гэтай.*
*…………………………………….*
*Бо, выбраўшы адну са ста дарог,*
*Мы вернемся па ёй адной да Бога.*

**Людміла Кебіч.** Дарога

Раней казалі мы і "ой" і "ай",
А ўсё часцей казалі дружна "опа!",
А як пісалі – толькі пачытай,
А колькі слоў было, а колькі кропак.

Пісалі мы: "…зялёная вясна… "…
А тут шнуркі ўкралі у паэта, –
Разборкі, смерць, сусветная вайна,
А мы не заўважалі з'явы гэтай.

Паэтам быць – тут вам не “ах” і “ох”,
Як ні гвалтуй ты слова, як ні тузай,
І ўсё часцей ад злосці і знямог
Гарохам дружна б’ём у сцены музы.

Ізноў вайна, расплата, кроў і пот,
І як ні “ахай” – зноў гарох, дарога,
Салома, сена, вершы, эшафот,–
І не ратуюць вершыкі пра Бога.








**Вершы і грошы**

*Можна ўсё на грошы перавесці –*
*І апошняй птушкі згіне след…*
*Зразумейце – грошы нельга есці,*
*Дык шануйце наш Зялёны Свет!*

**Людміла Кебіч.** GREEN PEACE

Можна ўсё на грошы перавесці –
Шмат паперы добрай змарнаваць.
Гэта ж колькі грошаў трэба з’есці,
Каб такія вершы напісаць.






*Дзень за днём, імгненне за імгненнем*
*Я жыву, малюся і грашу,*
*А ў апошні час амаль з натхненнем*
*Ем, ляжу, і асабліва сплю.*

**Віталь Клунейка.** ***Дзень за днём, імгненне за імгненнем

Дзень за днём малюся на каленях –
Так жыву, што часам не пазнаць.
Не жыццё, а нейкае глумленне, –
Ні паесці добра, ні паспаць.

А калі малітвамі дасталі,
Кожнае імгненне я грашу,
Кажуць мне – паеў бы хоць, Віталій, –
Я ж кагосьці лепей спакушу.

Трэба так: імгненне за імгненнем
Есці смачна, добра піць і спаць.
А пасля ўсяго амаль з натхненнем
Можна будзе вершык напісаць.






*І вось, калі пакорліва сагнецца*
*Прыгожага чужынца галава.*

*Як запяю, на даху адгукнецца*
*Сівая жоўтавокая сава,*
*І так ужо не першы год вядзецца…*

**Святлана Куль.** Вядзьмарка

І так ужо не першы год вядзецца,
Выходжу ў ноч пад пошчак салаўя,
Так запяю, што салавей заткнецца,
на даху дзіка закрычыць сава.

Мой голас так над светам пранясецца
Ударнай хваляй недзе да мяжы,
Расчуліць сэрца, пэўна, іншаземцу
І западзе да самае душы.

І вось калі той здолее прагнуцца,
І на парозе з'явяцца сваты,
Так запяю, што рэхам адгукнуцца,
Сабакі, совы й чорныя каты.



## Як не ўцякай…

*Як разлюбіць, як разлюбіць*
*Твой шал вачэй, твае сюрпрызы,*
*Ды жарты з вострых бліскавіц*
*З душой усмешкі Мона Лізы.*

**Мечыслаў Курыловіч.** *Як разлюбіць?*

*…Імпэту палкага пажар*
*Смяецца гронкамі ажыны,*
*Вачамі руж і тваіх чар –*
*Інтрыгай шалу для мужчыны.*
*Вакол шыпшына і чабор,*
*І ў варажбе не спяць рамонкі,*
*І таямніча шэпча бор,*
*Што не ўцячы табе ад жонкі.*

**Мечыслаў Курыловіч.** *Каханка*

Жыццё ў паэтаў насамрэч
І не жыццё – адны сюрпрызы:
Уцёк ад жонкі Мечык прэч,
Не да каго-небудзь – да Лізы!

Уцёк, дзе радасць бліскавіц
З вачыма руж, інтрыгай шалу,
Уцёк, каб Мону палюбіць –
Паэту жонкі адной мала.



Імпэту палкага капрыз…
О, Мона Ліза – грудзі гронкай!
У мройным сне шаптаў ён: “Ліз…”…
А тут аднекуль раптам жонка.

Сярод шыпшыны, чабару,
Каб з жонкай тут не весці веча,
Пайшоў, як заяц пад гару,
На хвалях звон вясны наш Мечык.

Як помстай здраду наталіць,
Спявае восенню старонка…
Уцёк, каб Мону палюбіць,
Як ні ўцякай – дагоніць жонка.





## Паэтычны зігзаг

*Зігзашыць горад наш рачулка.*
*У трубы, пад масты нырцуе.*
*……………………………………..*
*Мінае гмахі, паркі рэжа.*
*…………………………………….*
*Стань, гараджанін, на масточку.*
*Хаду сціш побач гараджанка.*

**Пётр Купа.** Гараднічанка

Ёсць край такі, дзе паркі рэжа
Рачулка і пад мост нырцуе.
Там хлопцы ржуць, у карты рэжуць
І вершы пішуць, як шанцуе.

Там творчы дух, там лямант гулкі.
(У Гродне дзіва было гэта).
На беразе адной рачулкі
Папёрлі вершы у паэта.

Вярзець паэт Гараднічанкай,
Яго калбасіць каля слупа,
Убок зігзашыць гараджанка –
Так вершам крые Пётра Купа.





## Гарадзенскі анёл

*святы анёл са шпілю пекнай Фары*
*штоночы шпацыруе па Гародні*
*і я натрапіў на яго сягодні*
*калі вяртаўся да цябе з вакзалу*
*мы разам з ім па вуліцах блукалі*
*на польскім бруку, у вітрынах крамаў*

**Эдуард Мазько.**
***святы анёл са шпілю пекнай Фары

калі вяртаўся ад цябе з вакзалу
па польскім бруку смела ўперад шпарыў
ды заблудзіўся каля пекнай Фары
а дзе твой дом ты мне не падказала

і так блукаў бы я адзін да ранку
каб не анёл святы, што вылез з рамы
мы з ім прыселі ля касцельнай брамы
і закурылі з ім на польскім ганку

зайшлі ў карчму мы з ім, пасля у краму
пасля мы грошы бралі ў “Прыорбанку”
пасля курылі зноў на польскім ганку
пасля гулялі з ім у рэстаранах

гуляць з анёлам пры жыцці не проста
мне гэта ў небе ўсё пасля прыдасца
баюся нават сам сабе прызнацца
напэўна я які-небудзь апостал

не шкадаваў я на анёла грошы
і падліваў яму пад свае вершы
і як паэт цяпер я сама лепшы
і як анёл цяпер я не найгоршы








## Юрлівы Юр

*Дом на юру, вятры цалуюць юр,*
*у ціхім доме піша вершы Юр[к]”…*
*(2.Эпікурэйства. Санэт- газэль-туюнг)*

*Чырвоны мак палае у гародзе*
*і расьсьяе саромлівыя сны,*
*а месяц разьлівае па падлозе*
*жаночы пах, салоны і п’яны.*

*Дарма філёзаф духам цела глодзіць,*
*грызуць яго юрлівасьці асны…*
*(6. Мак. аплікаваны санэт)*

**Юрась Пацюпа**, Мэзальянсы, або
Юрлівыя санэты

Дом на юру, там цела глодзіць Юр.
І дом юрліць, і ўсе цалуюць Юр,
Грызуць яго юрлівасьці асны,
Газэль-туюнг, і пах, і манікюр.

Ноч расьсяе саромлівыя сны.
Газэль-туюнг чысьцей ад прасьціны,
А тут глядзіш – заходзяць Лер і Лор,
Газэль-дзяўчо – і валішся п’яны.

А за вакном ласкава шэпча мор.
Прыйшлі юрліць у дом і Мань, і Дор,

[к]Юр: 1. Узвышша; 2. Поўнае імя (Юр); 3. Пажадлівасьць, жартаўлівасьць (Юрась Пацюпа. Слоўнічал // Arche, 2001, № 1, с. 103);
Эрекция – юр ( Варанец В. Руска-беларускі слоўнік медыцынскіх тэрмінаў. – Гродна, 1999).

Газэль-туюнг, хто ведаў бы пра юр…
Сьцямнела… Юр хапае зь неба зор.

Дом на юру, вятры цалуюць юр.
У ціхім доме піша вершы Юр.
Грызуць яго юрлівасьці асны,
Яму зайздросьціць нават Пушкін Шур.








## Радасць на хвасце

*Ды нясе нам радасці папіць*
*На хвасце стракатая сарока.*

**Чычкан Фёдар Уладзіміравіч**. Сяброўскі шарж

Не трэба тут хадзіць далёка –
У краму радасці купіць,
Паэту на хвасце сарока
Падасць і выпіць, і запіць.

Ды нешта крывіць паэт вокам,
З хваста таго нялёгка жыць…
А тут каханая пад бокам,
Маўляў, хацела б закусіць.





## Муза з саюза

*Адзін меў музу на прыкмеце.*
*Прыйшла ахвотаю сваёй,*
*Дык зачыніў у кабінеце*
*І не дае спакою ёй.*

*Дзяўчына плача і бушуе,*
*Крычыць: "Пусьці, я не твая!"*
*А ён нібыта і не чуе.*
*Ну што ты возьмеш з бугая?!*

*На вершы ўсе падраў панчохі,*
*А на паэмы сарафан.*
*Нат дарагой кашулі трохі*
*Адзерці здолеў на раман.*

**Чычкан Фёдар Уладзіміравіч.**
Сяброўскі шарж

Паэты так казалі музе:
Не пападзі, глядзі, ў капкан –
Па ўсім пісьменніцкім саюзе
Іх раскідаў адзін Чычкан.

Ды нешта муза празявала,
Сама зайшла у кабінет,
Хіба ж не ведала, не знала,
Якім бывае наш паэт?



А тут насустрач ёй граміла,
Не то паэт, не то маньяк,
Схапіў яе што было сілы
І распранаць стаў абы як.

Дзяўчына плача: “Хоць я й муза…
Але я муза не твая! –
Кахаю з іншага Саюза…”,
Ды што ты возьмеш з бугая?!

Панчохі рваў на ёй, сукенку,
Маўляў, у нас з табой раман.
Пяром параніў ёй каленку,
Здзёр з музы швэдру, сарафан.

Казалі людзі (людзі чулі):
Усё, што мог, паэта ўзяў,
Здзёр з музы станік і кашулю,
І ўсё астатняе – ўсё зняў.

І тут скразіць паэту думка:
Дык гэта ж – вартасны тавар!
Адзенне музы склаў у сумку –
Пабег паэта на базар.

І там за тое-сёе нешта
Прадаў ён музы гардэроб.
На  грошы зборнік выдасць вершаў –
Такі, вось, будзе абарот.

P.S.
І скажаць так: “Радзіла муза…
Такое дзіўнае дзіця”,
Што ахнуць тут усе Саюзы:
Пятровіча і Чаргінца.








# Эпіграмы

**Паэтам, творчым асобам і добрым людзям**

Тут хацеў бы падарыць
Шаржы, эпіграмы –
не павінна крыўды быць –
Бо раблю рэкламу!
(ад аўтара)



## Міхасю Амялішку

*аўтару раману-успаміну “Заблудныя”, у 2 кн. (Мінск: Кнігазбор, 2007,  2011).*

Можа, нехта й крывіўся, лякаўся,
Можа, й крытык казаў: “Очань плоха”,
Ды раман-успамін атрымаўся, –
Ёсьць асобы ў ім, ёсьць эпоха.

Атрымаць аўтар  “нобеля” рад бы,
Сколькі выцерпеў працы і бедаў:
Пра заблудных пісаў толькі праўду,
Пра астатніх – пісаў ён што ведаў.

Раман словам прыгожым аздобіў ён:
Ёсьць там драма, і проза, і нешта…
А калі ж не дадуць таго “нобеля”,
Хай напіша хто-небудзь лепшы!








## Юрку Голубу

*паэту і рэдактару з нагоды выдання зборніка “Галасы”.*

Ускочыш ноччу неяк раптам:
А дзе ж паэзія красы?
І не да сну ўжо нешта надта…
А тут аднекуль – Галасы.

Плывуць праз змрок, плывуць, дзе цёмна,
Гучаць сапрана, альт, басы…
Над горадам гучаць, над Нёмнам,
Ня лямант марны – “Галасы”.

І як бы цяжка не было б мне
Сярод чужацкае папсы…
А можа раптам нешта лопне…
Бо чую, чую… “Галасы”!






Пішуць сьмела, рэзка, крута –
Вобраз іх ня мае меры:
Гумянюк, Мазько, Пацюпа –
Шмат папэцкалі паперы.

Ды ня той паперы шкода,
Быў бы добры твор, дык дзе там…
Цяжка быць заўсёды модным,
І пры гэтым быць паэтам.









Затрымацца ў каханьні ня проста:
Вымярэньні тут іншага сьвету.
Яна думала, што ён апостал,
А ён быў незвычайным паэтам.

Яна думала – ён цаца-ляля,
Геній славы, паэзіі, думкаў,
А яму шмат чаго не хапала,
А яна ўсё шукала ратунку.

Жыць паэту з паэткай ня проста,
Тут нікчэмны парады й казаньні, –
Дзе паэта – там будзе і монстра,
Дзе паэтка – там будзе й празаік.





## Віктару Варанцу

*аўтару зборнікаў сатырычных вершаў “Доля беларуса”, “Рамізьнік”.*

Ён важна гляне зьверху –
з хітрынкамі ў вачах…
Куды б ня йшоў, ня ехаў –
а без яго ж – адчай.

Так пройдзе ўсё, як атам,
без радасьцей нальём, –
калі яго няма там,
павінен дзе быць ён.








## Ігару Жуку

*доктару філалагічных навук, аўтару літаратурных эцюдаў “Сустрэчны рух”, (Гродна, 1998) .*

**... Жук насустрач…**

Вось гісторыя: бывала,
Вып’еш піва сам, ці ўдвух,
Пойдзеш вуліцай, бо мала,
А тут Жук – сустрэчны рух.

Ёсьць, ён кажыць, прапанова,
Каб мацнеў наш вольны дух...
Што за стыль, ідэі, мова!
Ігар Жук – «Сустрэчны рух».

Тут канцэпцыю зважаеш:
У жыцьці – замкнуты круг,
Ды ня кожнага спаткаеш,
Жук насустрач – будзе рух!





## Эпіграма

Парнас у Гродне не такоўскі –
Дарога сьлізкая і брук,
На тым Парнасе быў Жукоўскі,
У Гродне ёсьць свой – Ігар Жук.








## Юры Камягіну

*краязнаўцу, літаратару і сябру*

Есть в жизни смысл –
и как ты ни блюди,
И что прошло –
уже того не будет…
Как хочется порой прильнуть к тугой груди,
Но где же они, где – тугие груди?!.

У сьвеце шмат было і ёсьць падзей, –
Вялікай славы й сьветаў прагнуць людзі…
Прымкнуцца б да пружыністых грудзей!..
Ды толькі дзе ж ўзяць такія грудзі…






*загадчыку кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Янкі Купалы*

Быў загадчыкам Каяла,
Быў няшмат, але й нямала.

**На псалм ад Каялы**

Сказаў я аднойчы Валодзю Каялу:
На вас, пэўна, будзе адна эпіграма…
– Ну-ну, – кажа ён, – мяне ведаеш мала,
Пісаць пра мяне трэба вельмі старанна.

Пішы пра Жука лепш, Маляўку, ці Алу…
Каяла табе – экзэмпляр вельмі рэдкі,
Пра што ты напішаш: ёсць рэчка Каяла,
А больш што? – Нічога!.. Ніякай зачэпкі!

Пісаць пра мяне, што ты знойдзеш такога?
Тут талент патрэбен, бальзам, гукі ліры…
Пісаць пра Каялу – пісаць што пра Бога:
Псалмы пісаць можна, але ж не сатыры!

*2002*






*шаноўным прафесарам, дактарам філалагічных навук ГрДУ імя Янкі Купалы*

*“Сядзець згарнуўшы рукі”*
*(Павел СЬЦЯЦКО);*
*“Сядзець склаўшы (злажыўшы) рукі”*
*(Іван ЛЕПЕШАЎ).*

**Пасядзелкі з рукамі**

Як трэба хадзіць, ці скакаць, ці стаяць вам –
Няма тут ніякіх складаных пытаньняў.
Як хочаш, так можаш хоць дзе паляжаць там,
Абы быў імпэт альбо, скажам, жаданьне.

Калі ж трэба сесьці – адразу ж праблема:
За руль, ці за стол, (нават у прыбіральні)…
Як рукі злажыць?.. На якое калена?..
Ці, можа, згарнуць іх на выпадак крайні?

Вось так і стаяў бы і ў неба глядзеў бы:
Згарнуць, не згарнуць альбо скласьці іх спраўна?..
Калі б згарнуў рукі сам Паўла й сядзеў бы,
Ніхто і ніколі ня чуў бы пра Паўла.

Калі б апантаны Іван, сын Якубаў,
Прысеў, склаўшы рукі ад гэтай навукі,
Ваўкі паздыхалі б, зубры далі б дуба –
Прысеў бы і Паўла, згарнуўшы бы рукі.

*2002*



**Лёньку**

*вайскоўцу ў ботах*

**Ня трэба пырскаць супраць**

(трыялет)

Ня трэба пырскаць супраць,
Калі ідзеш да ветру.
У войску я дапетрыў –
Ня трэба пырскаць супраць.
Хай дзеці ў школе вучаць
І у пагонах – мэтры:
Ня трэба пырскаць супраць,
Калі ідзеш да ветру.








**Сяргею Мальчыку**

*старшыні*
*Гарадзенскай філіі*
*Рады БНФ*
*ад Янкі Купалы*

**заява.**

Мой мілы таварыш, мой Хлопчык,
Вазьмі ты з сабою мяне.
Хай я не танкісты, ня лётчык,
Ды, можа, спатрэбіўся б дзе.

Вазьмі мяне, Хлопчык, з сабою,
Я мог бы пайсьці на парад,
Крычаць бы я мог з грамадою,
Няўжо ты мне, Хлопчык, ня рад.

Паэт я ўжо добра вядомы:
Я свой, не шпіён, не Азэф.
Сядзець надакучыла дома.
Вазьмі мяне ў свой БэНээФ.

І будзем мы разам змагацца:
Са мною ты, Хлопчык, ня трусь.
Мы будзем пад танкі кідацца,
Каб толькі жыла Беларусь!

*2003*



## Юрасю Мацко

*гарадзенскаму кавалю*

Молат, накавальня
І прастора між…
Памяць цьвердзіць сталлю:
Герб, карона, крыж.

З зоркаю барыга,
Пошасць, прышласць тут…
Ды вясною "Крыга"
Змые гэты бруд.

Робіць Юрка справу…
Сталь гарыць пакуль,
Куй народу славу,
А ня грошы куй.

*2003*







## Юрасю Пацюпу

*паэту, публіцысту, навукоўцу*

**Ходзіць Пацюпа горадам Гродна...**
(балада ў 5 каленках)

**Каленка 1**

Ходзіць Пацюпа горадам Гродна,
Радасны ходзіць, хоць і галодны.
Ходзіць шчаслівы... і позна і рана,
Ходзіць галодны, але закаханы.

Пішуцца вершы – радасьць якая,
Хто зможа лепш? – Ён жонкі дзве мае!
Жонкі натхняюць: адна... ці другая...
Толькі ня кормяць: ні гэта, ні тая.

Марная справа – жонкі ў паэта...
Кожнай жа трэба й тое, і гэта…
Ад ганарару якая тут сіла...
Гэта хацела... і тая прасіла...

Пішуцца вершы й пралягомэны,
Хутка ўжо хутка будзе ён геній,
Глядзь, у народ пайшлі ж мезэльянсы,
Толькі каб як дацягнуць да авансу…

*(Вясна, 2002)*

**Каленка II**

Часу прайшло няшмат і нямала –
Жонкі былі – ніводнай ня стала,
Мала ахвочых жыць з клясікам модным,
Клясік ня клясік, а ходзіць галодны.

Геніям стаць на бульбе і крупах
Здольны ня кожны – толькі Пацюпа.
Будзе і дзеўка… і зборнік элегій,
Толькі б даў грошы фонд "Лёвы Сапегі".

*(Вясна, 2005)*

**Каленка III**

Больш не напішам на Юр мы пародый –
З'ехаў Пацюпа з горада Гродна, –
Кінуў усё ён: сям'ю, ВэНэУ, –
Недзе у Менску знайшоў рандэву,

*(Вясна, 2007)*

**Каленка IV**

Недзе цяпер у горадзе Мінску,
Ходзіць Пацюпа, з'еўшы сасіску,
Цяжка ў сталіцы стаць блізкім і родным,
Ходзіць Пацюпа там злы і галодны.

Ходзіць паэта, як творца-садысты,
Ходзіць там клясык постмадэрністы:
"Хіба ж ня бачылі нашыя вочы…".
Цяжка паэту штодзень і штоночы.



Ходзіць, як прывід, монстра, Геракла,
Выбухне вершам, быццам тэрактам…
Зборнічак выдаў з назовам "Сабака"…
Цяжкая доля, відаць, у прымакаў.

*(Восень, 2008)*

**Каленка V**

Сьніцца Пацюпу горад Гародня,
Сьніцца – пад'еўшы ён, тоўсты і модны,
Клясыку творыць (далі яму хату), –
Ходзіць Пацюпа шчасьлівы й багаты…

*(Вясна, 2009)*






**на чэсць, хвалу і славу**
**ОДА**
*з нагоды эпіграмы ад Алы*

Нялёгка прыдумаць тут нешта пра Алу, –
А што ты прыдумаеш – рыфмаў замала.
Была неяк думка – як слава прапала,
І так засталася прачыстаю Ала.

Пра Алу пісаць – трэба быць дасканалым,
Каб слова гучала, каб рыфма сьпявала.
Мяне ж нават жонка прыраўнавала:
– Ну, што ты ўсё ходзіш – і Ала ды Ала!..

Ды што тут казаць – Ала піша удала,
Хаця ж беларусы – калі ўжо так стала –
Нікога ж ня маюць, адзін ёсьць Купала, –
Ня ведаюць, дурні, што ёсьць яшчэ Ала!

*24.10.2003.*
*ГрДзУ – V Купалаўскія чытанні*






*На археалагічных раскопках*
*групе студэнтаў пад кіраўніцтвам*
*гарадзенскана гісторыка, прафеса-*
*ра ГрДУ імя Янкі Купалы*
*С.А. Піваварчыка ўдалося раска-*
*паць*
*каменны фалас.*

**Піваварчык, Буш і ВАК …**

Практычны ён больш у жыцьці, як той іншы –
Зямлю ён капае, а посьле архівы.
Ці шчэпку дзе знойдзе, альбо камень лішні,
Ці нешта такое – жанчынам на дзіва.

І зь ім – у музей, – там дзе бабскае царства,
Дзе кнігі, іконы, манаскія рызы…
Быць там экспанатам – адно марнатраўства:
Каму што пакажаш ты без экспертызы.

Каб славу сваю ды ня скончыць на гэтым,
Даследаваць стаў абарончыя гмахі:
З акопаў, фартэцыяў, дзотаў – дуплетам
Пальнуў па ВАКу, як Буш па Іраку!

*(2003)*








## Віктару Сазонаву

*старшыні Гарадзенскай*
*абласной філіі "Грамады"*

### …А наперадзе Сазонаў
*(песенька ў выкананьні хору "Бацькаўшчына")*

**Саліст:**
Біў Сазонаў моцна ў звона, –
Дурны наш мужык – варона:
Толькі слухае Кабзона,
Лепш паслухаў бы Сазона.

**Хор:**
Засьпявайма, дзе дуда,
Грамада-да-да-да-да!
Грамаду-ду-ду-ду-ду!
Засьпявайма пад дуду.

**Саліст:**
Ад сезона да сезона
Недзе ходзяць па газонах
Грамадою ў кальсонах,
А наперадзе – Сазонаў.

**Хор:** (прыпеў той самы).

**Саліст:**
Нам бы пару гарнізонаў,
хоць на лініі Керзона…
Бог ня даў сваіх Самсонаў…
Ёсьць адзін… і той Сазонаў.

**Хор:** (прыпеў той самы).

**Саліст:**
Няма больш такіх персонаў:
Хільмановіч і Сазонаў,
Сёньня тут, а заўтра ў зоне,
А віноўны хто? – масоны.

**Хор:**
Засьпявайма, дзе дуда,
Грамада-да-да-да-да!
Грамаду-ду-ду-ду-ду!
Засьпявайма пад дуду.









*сябру*

Толькі выйду я
у ноч цёмную
пагуляць адзін
дзе над Нёманам,

Прайду горадам, –
людзі дзівяцца:
а ці ў морду мне,
а ці ў сківіцу.

Хіба ж лёс такі, –
буду біты я.
І баляць бакі,
і ня выпіты.

З гэтым горадам…
Уцяку я лепш
ды над Котраю
напішу я верш.

Сьмела выйду тут
я на рэчаньку,
мяне тут не б’юць
ціхім вечарам.

Толькі раніцай
у вачах дурман…
Я ж пра п’яніцу
стаў пісаць раман.

Тэкст вядомы мне…
Кульну сотку я…
Назаву “На дне”,
ці “Над Котраю”.

Пасьля выйду зноў
тут на рэчаньку
пагуляць адзін
ціхім вечарам.

Што мне гэта дно,
ды няўмольнае…
Гэта ж не жыцьцё…
Не Самойла я!

Вып’ю сотку я
і пакаюся,
і “Над Котраю”
апраўдаюся.








## Генадзю Семенчуку

*гарадзенскаму гісторыку, дацэнту*
*ГрДу імя Янкі Купалы, сем’яніну*

### Шалёны Ген

Калі быў студэнтам, даваўся у знакі,
Той Генка, Гендос – так зваўся хлапчук,
Тады ўжо ён думаў пра Менск і пра Кракаў,
Шалёны быў Ген той – Ген. Семянчук.

А зараз раскопкі, кнігі, кабіны,
Ня страшыць сьпякота, дождж і мароз –
Пры жонцы такой, як пані Альбіна,
Лятае Генадзь, як той альбатрос.






*гарадзенскаму гісторыку, дацэнту*
*ГрДу імя Янкі Купалы, сем'яніну*

**… пра Берышты**

Калісьці пісаў ён паэмы і вершы
пра люд беларускі, прыроду, каханьне,
ды нешта замкнула – пісаць стаў пра Бершты
гісторыі розныя, сказы, паданьні.

І так ажыўляе падзеі сівыя, –
усё там: галеча, і зьдзек, і раскоша…
Капае архівы, бы золата мые –
шукае ўсё грошы…
Якія там грошы?..

А тут гол забілі ня ў тыя вароты…
А сын, хлопец бойкі, пабіўся у школе…
А вершы, а жонкі – усё гэта потым –
галоўнае праца і праца у волю.



Ня есьць і ня п'е ён; ну, трохі так, піва,
а Токцем як токне, якія тут вершы?..
Прапаў бы, здаецца, там недзе ў архівах,
Ляцеў бы, здаецца, на крылах у Берышты.

*2002*






*гарадзенскаму краязнаўцу, публіцысту, актывісту і творчаму чалавеку.*

Ня кожнага вабяць вандроўкі, турызмы,
ці сьветам прайсьціся, зямлёй гэтай грэшнай...
Ня кожны з нас мае такую харызму
і сінія вершы. Так, сінія вершы.

Ня кожны даходзіць да гэтага стану, -
што толькі ня зробіш у творчым парыве.
Ня кожнаму ў 10 гадзін - вельмі рана,
ня кожны друкуе харызму у «Ніве».



А далей дык – болей: што можна, няможна,
І ў “Рацыі” голас, і спорт, афарызмы...
У сьвеце нялёгка жыць хамскім, бязбожным...
І опус у «Ніву», бо, зноў жа, харызма!..

*2010*





## Вечаславу Шведу

*доктару гістарычных навук, прафесару, загадчыку кафедры ГрДУ імя Янкі Купалы*

Хто б гісторыі ня ведаў,
Помніць варта вечы, славу.
Пад Гародняй былі шведы,
Ды Гародня – не Палтава.

І ня Полацак, што зьведаў
Пётры Першага расправы…
Пад Гародняй былі шведы,
Там былі і Вячаславы.

Пеця войскам стаў у Гожы
(пра Гародню што ён ведаў?),
Ці спалохаўся ён, можа,
У Гародні гэтых Шведаў?..

Гаварыла ж баба дзеду:
Пётры Першыя зьвяліся…
Пад Палтавай былі шведы!
А ў Гародні засталіся?!



Так Гародня стала роднай,
Прадзедам усім і дзедам…
Хочаш ведаць што пра Гродна –
Запытайся лепш у Шведа.

*2011*





## Янка - кароль тутэйшае пародыі

*У трох частках*

### Частка першая

Пра сябе
Макаць далікатнае пёрка ў сатыру
не надта прыстала,
калі носіш ліру,
лятаеш высока
(хоць падаеш часам)
ці павай на людзі выходзіш, арты-
стай...
Але ж -
хто з тутэйшых напіша
пародыю
на
Парадыста?



### Частка другая

Пра героя
Янук - сын мужыцкі,
пародыі Рыцар,
хлусню і няпраўду на дзіду наколе,
дастане нікчэмнасць,
няхай і на танку,
з высокага цокалю сцягне, заколе.
Пра ўсіх піша Янка.
Да ўсіх справа Янку
Як вожык калючы,
як сам Крапіва-байкапісец, пякучы,
для кожнага штосьці ў кішэні трымае,
а сам талент мае:
усе свае таленты ў торбу хавае.
Прыкінецца мілым, рахманым, ціхмяным,
ну - як ліст у лазні,
ну -. хоць ты да раны
прыкладвай -
і вылечыш кожную больку...
Але гэта толькі,
пакуль не зазнаеш
ягоных пякучак-калючак-іголкаў...

## Частка трэцяя

Пра сябе
Пішы, покуль дзіды твае не ступелі.
Пішы, покуль рыфмы твае не струхлелі.
Пішы. Не кранай толькі гжэчную Алу:
у нашай гаворцы ёй рыфмаў замала,
высцёбваць шаноўную пані прылюдна
занудна,
злавесна,
ў пародыі рамках
жанчыне зацесна.

*24.10.2003 г.*
*Ала Петрушкевіч*





## Выкарыстаныя паэтычныя зборнікі:

Arche-Скарына, 2001, № 1.

Варанец Віктар. Лёс беларуса: гумарыстычныя вершы і пародыі. – Гродна, 1998.

Гродна ў вершах і песнях: і памяць, і пашана, і любоў… / уклад.: Л.А.Кебіч, А.І.Ласмінскі. – Гродна, 2008.

Ермашкевіч Браніслаў. Зямлі маёй нераўнавага. – Мінск: Кнігазбор, 2007.

Кебіч Людміла. Ключы ад неба: вершы – Мн.: “Про Хрысто”, 2005.

Лябірынты прывіднага замку. Гарадзенскі клюб паэтаў. Анталёгія. – Беласток, 2000.

На Нёманскай хвалі: Літаратурны альманах, № 2. – Гродна, 2011.

Россып: Зборнік вершаў. – Гродна, 2010.

http://pisateli.by/ Гродно: Саюз пісьменнікаў Беларусі.

## ЗМЕСТ

